# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№12 (271)

снежань 2024

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"




НЕ ВАЙНЕ!

ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ




## З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!

Шаноўныя нашы чытачы і чытачкі! Сардэчна віншуем вас з Калядамі і Новым годам! Жадаем вам моцнага здароўя, нязгаснай энергіі, нечаканых прыемных адкрыццяў ды добрых навінаў.

Хай кожны новы дзень прыносіць радасць і сэрцы поўняцца любоўю і цеплынёй!

У віры штодзённых клопатаў жадаем знайсці сілы заставацца сабой і захоўваць вернасць сваім ідэалам.

Памятайма, наша сіла – у нашай еднасці! То пакінем усе нашыя звады ды рознагалоссі ў адыходзячым годзе, а ў наступны год пранясём тое, што яднае нас усіх – любоў да Беларусі!

Вясёлых святаў!

Будзьма беларусамі! І будзьма разам!

**ЗБС Бацькаўшчына**

## ІВОНКА СУРВІЛЛА ЎЗНАГАРОДЗІЛА МЕДАЛЯМІ ВЫБІТНЫХ БЕЛАРУСАЎ

За асабістую адвагу, праяўленую ў баях супраць расійскіх агрэсараў ва Украіне дзеля свабоды Беларусі і Украіны, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла ўзнагародзіла медалём "За баявыя заслугі" трох байцоў групы спецыяльнага прызначэння батальёну "Волат". Іх імёны не апублічваюцца, як і прозвішчы трох асобаў, узнагароджаных медалём Ордэну Пагоні, якія жывуць у Беларусі і адзначаныя за за шматгадовую дзейнасць у збераджэнні гістарычных каштоўнасцяў і ўшанаванне памяці выбітных асобаў беларускай гісторыі.

Затое няма падставаў не назваць імя іншай асобы, чые заслугі ўшанаваныя Медалём Ордэну Пагоні – гэта палітолаг Анаіс Марэн. Да нядаўняга часу яна была адмысловай дакладчыцай ААН па правах чалавека ў Беларусі і шмат зрабіла для абароны як беларусаў, якія на Бацькаўшчыне цярпяць пераслед за свае перакананні, гэтак і для тых, хто апынуўся ў вымушанай эміграцыі. Дзень Герояў – удзельнікаў Слуцкага паўстання ў абарону БНР – дзесяцігоддзямі адзначаўся ў асяродках беларускай дыяспары ў Еўропе, на паўночнаамерыканскім кантыненце і ў Аўстраліі ў часы, калі Беларусь была часткай СССР, у якім гісторыя змагання супраць бальшавіцкай акупацыі замоўчвалася. Традыцыю ўшанавання памяці змагароў за Незалежнасць Беларусі пераняло і новае пакаленне эмігрантаў.

radabnr.org

навіны

# ЛІЛЕЯ ПЛЫГАЎКА АТРЫМАЛА ЎЗНАГАРОДУ АД ЛІТВЫ



Пра гэта вядомая беларуская мовазнаўца і выкладчыца паведаміла на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Лілеі Плыгаўцы быў уручаны срэбраны медаль пашаны “За заслугі” ад Дэпартамента нацыянальных меншасцяў пры Урадзе Літоўскай Рэспублікі.

“Вялікую частку свайго жыцця я прысвяціла навуковаму даследаванню і выкладанню беларускай мовы ў сучаснай Літве. Рада, што мая праца па захаванні і папулярызацыі беларускай мовы годна ацэнена краінай, якая стала для мяне ўтульным домам”, – напісала спадарыня Лілея Плыгаўка.

Лілея Плыгаўка нарадзілася ў Баранавічах. Скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны па спецыяльнасці беларуская і руская мовы і літаратуры, там жа – аспірантуру. Абараніла кандыдацкую дысертацыю ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі. Працавала ў школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот, потым у звычайнай сярэдняй школе выкладала беларускую мову і літаратуру. У 1991 годзе ў Вільні адкрывалася кафедра беларускай мовы і літаратуры ў мясцовым педінстытуце (пасля – універсітэце), пасля перамоў з літоўскім Міністэрствам адукацыі і атрыманага запрашэння Лілея Плыгаўка ўзначаліла гэтую кафедру. Стварыла і кіравала Цэнтрам беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры пры Віленскім педуніверсітэце, узначальвала Літоўскую асацыяцыю беларусістаў.

Дзякуючы працы Лілеі Плыгаўкі і яе калег у Вільні паўстала беларуская гімназія імя Францыска Скарыны.

**ЗБС “Бацькаўшчына”**

# У ГРОДНЕ НЕ З’ЯВІЦЦА ШЫЛЬДА Ў ГОНАР ВАСІЛЯ БЫКАВА – ЧЫНОЎНІКІ РАСТЛУМАЧЫЛІ ПРЫЧЫНУ

Гродзенцы прапанавалі ўсталяваць у гонар Васіля Быкава шыльду. Яе можна было б размясціць на доме па вуліцы Вялікая Траецкая, 28 – Быкаў жыў там з 1958 года і да пераезду на Свярдлова. Гродзенскі гарвыканкам разгледзеў петыцыю і адмовіў у прапанове, спаслаўшыся на адсутнасць сродкаў.




### “Сродкаў на ўсталяванне шыльды не прадугледжана”

Гродзенцы атрымалі адмоўны адказ на прапанову ўсталяваць шыльду ў памяць Васілю Быкаву. Адказ з’явіўся на рэсурсе e-petitions.by.

У адказе гарвыканкама адзначаецца, што “разліковымі паказчыкамі па горадзе Гродна не прадугледжана фінансаванне расходаў на стварэнне аб’ектаў манументальнага мастацтва ў горадзе, у тым ліку мемарыяльнай або памятнай шыльды ў памяць Васіля Быкава”.

Таксама чыноўнікі адзначылі, што дадатковых фінансавых крыніц няма, таму прадугледзець сродкі на ўсталяванне шыльды “не ўяўляецца магчымым”.

Адказ на зварот гродзенцаў падпісала намесніца старшыні Гродзенскага гарвыканкама Зоя Кулеша. Раней яна адмовіла гараджанам ва ўсталяванні помніка Васіля Быкава. За яе подпісам прыходзілі таксама адказы пра зніклыя з гарадскіх будынкаў шыльды, прысвечаныя паўстанцам 1863 года і паўстанню Касцюшкі.

### Гродзенцы чакалі месяц, каб атрымаць адмоўны адказ

Петыцыя з прапановай усталявання памятнай шыльды з’явілася на рэсурсе e-petitions.by напрыканцы кастрычніка. У ёй адзначалася, што дзякуючы мемарыяльнай шыльдзе ў горадзе з’явіцца важны культурны аб’ект. А яе адсутнасць перашкаджае ўшанаванню ўкладу Васіля Быкава ў беларускую і сусветную літаратуру.

Пад зваротам падпісалася 29 чалавек.

**hrodna.life**

# У ТБІЛІСІ ПАСЛЯ ТРОХ ГАДОЎ ПРАЦЫ ЗАЧЫНЯЕЦЦА БЕЛАРУСКАЯ ПРАСТОРА KROPKA




21 снежня там адбылося агульнае развітальнае мерапрыемства, 22-га – апошняе тэматычнае (майстар-клас “Калядная зорка”). Апошні дзень працы – 10 студзеня.

Kropka зачыняецца праз змяншэнне колькасці беларусаў, якія пражываюць у Грузіі (цяпер каля 12 тысяч, што на 3 тысячы меней, чым два гады таму), прыняцце закона “аб замежных агентах” і закона, які дыскрымінуе супольнасць ЛГБТК+, паведамілі “Пазірку” ў адміністрацыі прасторы.

Тэматычныя супольнасці працягнуць дзейнасць на іншых пляцоўках, іх анонсы па-ранейшаму будуць размяшчацца ў тэлеграм-канале Kropka.

Паводле інфармацыі адміністрацыі, за тры гады прайшло каля 800 мерапрыемстваў, у якіх удзельнічала 8,5 тыс. чалавек. Амаль 90% мерапрыемстваў арганізавалі самі наведвальнікі прасторы.

Беларусы, якія з’ехалі ў Грузію з-за пагрозы палітычных пераследаў на радзіме, сутыкаюцца з цяжкасцямі пры абнуленні тэрміну знаходжання, т. зв. візаране (без перапынку можна знаходзіцца 364 дні, затым выехаць на любы тэрмін і вярнуцца) – назад пускаюць не ўсіх журналістаў і актывістаў дыяспары. У краіне немагчыма атрымаць міжнародную абарону, нягледзячы на наяўнасць адпаведнага механізму, у амбасадах краін Шэнгенскай зоны – вялікія цяжкасці з атрыманнем кароткатэрміновых віз.

**pozirk.online**

**фестываль**

# КОЛЬКІ ЛЮДЗЕЙ СЁЛЕТА ЎБАЧЫЛІ “ПАЎНОЧНАЕ ЗЗЯННЕ”? КІНАФЭСТ ПАДВОДЗІЦЬ ВЫНІКІ

У лістападзе юбілейны X кінафестываль “Паўночнае ззянне” зладзіў для сваіх глядачак і гледачоў кінамарафон працяглацсю амаль у месяц з праглядамі фільмаў як online, так і offline. Пасля гэтага камандзе фэсту не раз паступала пытанне: “Як усё прайшло?” У гэтым тэксце падводзім вынікі кінападзеі ў лічбах.

X эдыцыя “Паўночнага ззяння” была аб’яднаная агульнай канцэпцыяй пад слоганам: “ВЯРНУЦЦА ДА КАРАНЁЎ”. Кінафестываль заклікаў паразважаць пра “карані” і “ідэнтычнасць” праз кіно.

## 46 фільмаў паказалі на працягу кінафэсту

Лайнап фестывалю складаўся з пяці розных праграм: Міжнароднай, Беларускай, UKRAINE MON AMOUR, спецыяльнай праграмы “Нязломнасць” і праграмы кароткага метра SHORTCUT. Адметна, што значную частку праграмы “Паўночнага ззяння-2024” склалі артхаўсныя і масавыя стужкі, прэм’еры якіх адбыліся на найбуйнейшых кінааглядах свету, такіх як Каны і Венецыя.

## 15K праглядаў фільмаў зафіксавалі на online-платформе

Трэці год, як кінафэст дае магчымасць глядзець online легальна і абсалютна бясплатна куратарскую падборку фільмаў ад праграмераў “Паўночнага ззяння”. Вядома – зафіксаваць дакладнае значэнне немагчыма, бо многія глядзяць фестывальныя стужкі дома ў кампаніі сябровак/сяброў ці сям’і. Таму выніковую лічбу праглядаў можна павялічваць у некалькі разоў.

Самым папулярным фільмам па колькасці праглядаў стаў нарвежскі док неверагоднай прыгажосці “Песні Зямлі” (рэж. Маргрэт Олін, Нарвегія, 2023). Ён сабраў 761 прагляд на online-платформе кінафэсту.

## 4416 гадзін праглядаў online

А гэта ажно 184 дні! Столькі часу глядачкі і гледачы прысвяцілі фільмам “Паўночнага Ззяння”. У 2024 годзе фестывальнае кіно часцей за ўсё глядзелі з тэрыторый наступных краін: Беларусь, Польшча, Германія, Літва, Грузія.

## Больш за 600 глядачак і гледачоў offline

Акрамя паказаў online, фільмы “Ззяння” паказалі offline ў Вільнюсе, Таліне і ўпершыню ў Варшаве.

Больш за 600 чалавек наведала гэтыя прагляды кіно. Апроч гэтага падчас фэсту offline прайшло 8 івэнтаў і Q&A.




Фільмы пра Беларусь змаглі ўбачыць не толькі беларускі і беларусы, але і замежніцы/замежнікі. Дзякуючы калабарацыі “Паўночнага Ззяння” з PÖFF – Талінскім кінафестывалем “Чорныя ночы” – у Таліне прайшлі паказы фільмаў беларускіх рэжысёраў (“Непажаданае сваяцтва”, “Працэсы”) і панэльная дыскусія “На мяжы дэмакратыі” пра тое, як фільммэйкеры могуць рабіць сваю справу ў свеце войнаў, вымушанай міграцыі, (дэ)каланізацыі і цэнзуры. У Вільнюсе адбыліся паказы фільмаў “Песні Зямлі”, “Працэсы”, “Непажаданае сваяцтва”, “Чамадан”, “Скрозь святло”, “Кут чужога шчасця”, “Кроў і караоке” пры падтрымцы кінацэнтра Skalvija. У цэнтры польскай сталіцы адбылася Варшаўская прэм’ера нашумелага фільма Мары Тамковіч “Пад шэрым небам”, а таксама паказы стужак “Прамень” і “Хто, калі не мы? Барацьба за дэмакратыю ў Беларусі”.

## 3 фільма-пераможцы конкурсных праграм і 6 спецыяльных згадак журы “Паўночнага ззяння – 2024”

**Беларускі конкурс.** Фільмы Беларускага конкурсу аглядала міжнароднага журы, у склад якога сёлета ўвайшлі эстонская кінапрадзюсарка Марыянэ Острат, рэжысёрка, кінапрадзюсарка і дырэктарка кінафестывалю goEast Гэлеэн Хэрытсэн і беларуская рэжысёрка і журналістка Ганна Бадзяка. Журы аднагалосна вырашыла прысудзіць узнагароду за найлепшы фільм Беларускага конкурсу стужцы “Пад шэрым небам” рэжысёркі Мары Тамковіч. Абгрунтаваўшы свой выбар наступным чынам:

“Праз разумныя і ўпэўненыя мастацкія выбары рэжысёрка дае нам прымерацць боты смелай беларускай журналісткі, арыштаванай за вядзенне трансляцыі з жорсткага падаўлення мірных пратэстаў. Мы разумеем і ўхваляем экзістэнцыйны выбар галоўнай гераіні і спачуваем яе мужу, пакуль яна працягвае змагацца з дзяржавай, якая разбурае іх ранейшае сямейнае жыццё”.

Спецыяльнымі згадкамі гэтаксама адзначаныя два фільмы: “Непажаданае сваяцтва” Паўла Мажара і “Працэсы” Андрэя Кашперскага.

**Міжнародны конкурс дэбютаў.** Ацэньвалі фільмы Міжнароднага конкурсу дэбютаў рэжысёрка Саша Кулак, прадзюсарка і проджэкт-менеджарка B2B Doc Ілья Стэнберг і прадзюсарка і дырэктарка HER Docs Марта Гольба-Наўман. Перамог фільм “Г – Гатсунда ў 21 дзеі” рэжысёра Лорана Баці.

“Пакідаць месца, якое вызначыла цябе як асобу, ніколі не проста. Рэжысёр апісвае гэтае падарожжа з глыбокай эмацыйнасцю, запрашае нас у інакш недасяжны свет, – растлумачыла свой выбар журы. – Ён расшуквае сяброў з мінуўшчыны, малюючы іх так, як мала хто змог б – з чэснасцю, якая паказвае, як іх выбары вызначае складаная сумесь эмоцый і супадзенняў, – і выстаўляе братэрства ва ўсім яго голым харастве і складанасці”.

Спецыяльнай згадкай былі адзначаныя дзве стужкі: “Balomania” (рэж. Сісэль Морэл Даргіс) і “Палаючы рай” (рэж. Міка Густаўсон).

**Конкурс кароткага метра SHORTCUT.** Конкурс кароткага метра SHORTCUT сёлета прайшоў упершыню. Міжнароднае журы, у складзе якога агентка па продажах і сузаснавальніца ShortsFit Люцыя Рыджыа, рэжысёр-дакументаліст Арцём Лобач і дарадца міжнароднага аддзела агенцтва Finnish Film Foundation Ота Сууронен, узнагародзіла дзівосна інтымную стужку “Лазневы дзень” (рэж. Ганна Хінтс і Тушар Пракаш):

“У пары жыцця раскрываецца тонкая і прыгожая гісторыя пра магчымасць любові і клопату між мужчынамі. Фільм пра невымоўнае, элегантна зняты ў гарачай саўне, са змрочнымі ценямі на сценах і па-імпрэсіянісцку потнымі буйнымі планамі галінак, што рытмічна гойдаюцца. Гледачы могуць адчуць глыбокае паразуменне і напружанне ў героях і атачэнні фільма. Сінергія парнага асяроддзя, глыбокіх пачуццяў і асабістых гісторый раскрывае тонкасць і хараство невымоўнага”, – каментуюць свой выбар журы.

Спецыяльнай згадкай адзначаны фільм “Умяшанне” (рэж. Гунур Марцінсдоўцір Шлютар) і акцёрская праца Яна Гуннара Ройсэ (“Нарвежскае патомства”).

Апроч выбару журы, у глядачак і гледачоў таксама была магчымасць абраць фільм-фаварыт. Па выніках галасавання пераможцай глядацкіх сімпатый стала стужка “Раб танца” – сюррэалістычны скетч, у якой вусаты юнак стараецца займацца справай, якую шчыра любіць.

Калі вы глядзелі сёлета фільмы “Паўночнага ззяння”, можаце падзякаваць камандзе кінафестывалю, зрабіўшы данат.

Сачыце за навінамі фэсту ў сацыяльных сетках праекта FB, Instagram, Telegram.

budzma.org

гутарка

# ДАЛЁКА АД РАДЗІМЫ, АЛЕ БЛІЗКА ДА ЯЕ ГІСТОРЫІ

Куратарка кніжнай серыі "Бібліятэкі Бацькаўшчыны" "Людзі эміграцыі" Наталля Гардзіенка пра Янку Запрудніка і новую кнігу пра яго. Пра асобу Янкі Запрудніка, яго грамадскі, навуковы й творчы чын, лёс спадчыны, а таксама пра пераемнікаў ідэі беларушчыны ў асяродках новых эмігрантаў у ЗША.




Янка Запруднік дзякуе за хлеб-соль для замежных беларусаў. Маладзечна, 1992 г.

## Пра асобу Янкі Запрудніка

**– Калі вы ўпершыню пачулі гэтае імя – Янка Запруднік? Які яго вобраз склаўся ў вас?**

– Імя Янкі Запрудніка я чула яшчэ ў студэнцкія часы, тады якраз выйшла ягоная кніга "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях". Аднак малады нігілізм не даў мне адэкватна ацаніць тую працу, бо ну што можа напісаць пра беларускую гісторыю эмігрант, які на раскопкі не ездзіў, у беларускіх архівах не працаваў? Так мне тады здавалася. Пазней, калі зацікавілася гісторыяй эміграцыі, адбылося больш сур'ёзнае знаёмства з працамі спадара Янкі. Найперш як рэдактарка альманаху "Запісы БІНіМ" я рэгулярна працавала з ягонымі тэкстамі, за якімі быў бачны ўдумлівы, ахайны і дыпламатычны ў фармулёўках аўтар, гісторык і журналіст з вялікім досведам.

**– А як і калі ўпершыню пазнаёміліся? Ці супала завочнае і вочнае ўражанне?**

– Асабіста пазнаёміліся мы ў Менску ў часе Чацвёртага з'езду беларусаў свету ў 2005 годзе. Я пабачыла сапраўднага інтэлігента, зацікаўленага суразмоўцу. І ў жыцці ён быў гэткім жа дыпламатычным, як у сваіх тэкстах. Калі потым запісвала з ім розныя гутаркі або проста размаўляла, заўсёды адзначала, як ён добра прадумваў тое, пра што казаў, як намагаўся абыходзіць вострыя моманты, пазбягаць непрыемных ацэнак, канфліктаў. Думаю, гэта й вынік жыцця ў эміграцыйнай грамадзе, што вучыла гэткай дыпламатыі, і прыроджаная неканфліктнасць самога спадара Янкі. Ён умеў адстойваць свае перакананні, але рабіў гэта тактоўна, звычайна без залішніх эмоцыяў.




Кніга пра Янку Запрудніка

У 2016 годзе я ўпершыню наведала спадара Янку й ягоную жонку Надзею ў іх дома ў Сомэрсэце (Нью-Джэрсі). І ад таго часу фактычна кожны прыезд у ЗША завітвала ў тое гасціннае месца. Спадар Янка заўсёды цікавіўся тым, што адбывалася ў Беларусі, што рабілі мы ў эміграцыязнаўстве, новымі кнігамі, падзеямі. Цягам свайго жыцця ў эміграцыі ён удзельнічаў у розных праектах, ведаў багата людзей і гатовы быў дзяліцца гэтымі ведамі.

## Пра "запрудніказнаўства"

**– Можна сказаць, што да выдадзенага цяпер фундаментальнага тому "Янка Запруднік" вы падыходзілі спакваля, праз папярэднія публікацыі й кнігі. Раскажыце коратка пра ваша "запрудніказнаўства".**

– Янка Запруднік быў мне цікавы як эміграцыйны дзеяч, які пры канцы 1940-х разам з іншымі беларускімі хлопцамі-скаўтамі апынуўся ў Вялікай Брытаніі, дзе зарабляў працаю ў вугальных капальнях на атрыманне вышэйшай адукацыі. Калі я пісала кнігу пра беларусаў у гэтай краіне, то шмат працавала з ягонай "Дванаццаткай", а таксама рэгулярна звярталася да яго самога па ўдакладненні. Да таго ж у 2006 годзе спадар Янка святкаваў сваё 80-годдзе, і мы рабілі ў "Запісах БІНіМ" частку нумару, прысвечаную юбіляру, дзе былі ягоныя біяграфія, бібліяграфія, паасобныя тэксты. Далей Янка Запруднік працягваў публікаваць час ад часу свае тэксты ў альманаху, у нас з'явілася яшчэ адна агульная тэма – архівы, найперш архівы БНР, пазней ягоныя ўласныя. На падставе ягонага эпісталярнага архіву мы з калегам Лявонам Юрэвічам да 90-годдзя Янкі Запрудніка выдалі кнігу "Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны", на прэзэнтацыю якой ён прыязджаў у Менск апошні раз у 2016 годзе. Шмат да ведаў пра жыццё спадара Янкі дадавалі архіўныя дакументы, з якімі я працавала.

**– Ну й вось трымаем у руках дыхтоўны том, выдадзены ў серыі "Людзі эміграцыі" пад грыфам "Бібліятэкі Бацькаўшчыны". Што новага, невядомага, а мо й неспадзяванага, увайшло ў гэтае выданне?**

– Найперш адзначу, што гэтае выданне – плён працы некалькіх чалавек: да фармавання зместу мелі дачыненне таксама Надзея Запруднік, Валянціна Трыгубовіч і Лявон Юрэвіч. Гэты том задумваўся як мемарыяльнае выданне, якое будзе расказваць пра асобу Янкі Запрудніка з розных бакоў. Таму тут ёсць і ягоныя гістарычныя тэксты, і эсэ, і вершы, і эпітафіі, і ўспаміны, і ліставанне, і іншае. У часе падрыхтоўкі да публікацыі асобных раздзелаў дысертацыі Янкі Запрудніка, прысвечанай змаганню за Беларусь у расейскіх Дзяржаўных Думах на пачатку XX ст., я наноў адкрыла для сябе яго як гісторыка. Ён напісаў сапраўды добрую і важную працу, на жаль, не ацэненую дагэтуль.

Нечаканым для мяне стаў дзённік падарожжа Янкі Запрудніка ў 1953 годзе ў ЗША. У той час ён быў студэнтам Лювенскага ўнівэрсітэта і актыўна заангажаваўся ў дзейнасць Рады БНР, па лініі якой і скіраваўся на некалькі месяцаў за акіян. Ён наведаў беларускія асяродкі ў Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі, Чыкага, Клiўлендзе, Дэтройце, і праз увесь час вёў дзённік, дзе адлюстраваліся спатканні, падзеі, людзі, заўвагі, часта даволі вострыя, якія пазней у больш сталым узросце Янка Запруднік наўрад ці сабе дазволіў бы. Гэты тэкст – не толькі выдатная крыніца да гісторыі беларускага жыцця ў ЗША, але і цудоўнае сведчанне таго, чым жыў у той час ягоны аўтар – малады беларус, які толькі пачынаў сваю дзейнасць у беларускай грамадзе.

А яшчэ вельмі рада, што ў кнігу ўвайшло маё інтэрв'ю са спадарыняй Надзеяй Запруднік, запісанае ўжо пасля сыходу спадара Янкі. Я ведала Запруднікаў разам, захаплялася аднасінамі ў гэтай пары, і было вельмі цікава распытаць, як бачыла спадарыня Надзея іх супольнае жыццё, які спадар Янка быў у сям'і. Гэта дадало новыя адценні ў маё ўласнае бачанне гэтага дзеяча.

## Пра жыццёвы чын і дабрадзейства

**– Сёння, калі ўжо мінула паўтара года, як Янка Запруднік адышоў у вечную Беларусь, якім ён вам бачыцца? Кім ён быў? Адным з лідараў беларускага руху ў Паўночнай Амерыцы? Навукоўцам? Літаратарам? Журналістам? Дабрадзеем?**

– Янка Запруднік быў усім з пералічанага й шмат кім іншым. Ён сапраўды быў адным з лідараў беларускага руху ў ЗША, а мо і ў свеце наогул, бо на першых ролях быў у розных арганізацыях: і ў Радзе БНР,

і ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва, і ў Беларускай фундацыі Крачэўскага. А таксама ўваходзіў у Вялікую раду Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", быў сябрам Беларускага ПЭН-Цэнтру, Саюзу беларускіх пісьменнікаў і інш. Ён быў гісторыкам, аўтарам цікавых даследаванняў, а таксама некалькіх выданняў англамоўнага "Historical dictionary of Belarus" (1998, 2007). Быў журналістам, шмат гадоў працаваў у беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне / Свабода", а таксама выдаваў у 1980-х – 1990-х газету "Беларус". Пачынаў як паэт Сяргей Ясень і пакінуў па сабе пэўную літаратурную спадчыну. А яшчэ быў захавальнікам памяці пра іншых беларускіх эміграцыйных дзеячоў, апекаваўся іх архівамі. Так, ён даглядаў і, паводле тэстаменту, распараджаўся паперамі Антона Адамовіча, захоўваў дакументы Васіля Шчэцькі, Часлава Будзькі, клапаціўся пра архіўныя зборы ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры.

І, безумоўна, разам са сваёй жонкай Надзеяй спадар Янка актыўна падтрымліваў, у тым ліку й фінансава, людзей, арганізацыі, цэрквы, ініцыятывы ў Беларусі. У кожны са сваіх прыездаў на Бацькаўшчыну Запруднікі пакідалі тысячы ці нават дзясяткі тысяч даляраў на патрэбы мясцовых суродзічаў. Іх цікавіла ўсё нацыянальнае беларускае, што з'яўлялася й патрабавала падтрымкі.

### Пра вядомасць на радзіме

**– І вось пасля ўсіх гэтых дэфініцый са здзіўленьнем сустракаем на старонках кнігі прызнанне аднаго вядомай беларускай асобы сярэдняга веку ў тым, што яна амаль нічога не ведала пра тытанічную працу беларусаў Амерыкі на карысць Бацькаўшчыны. Што вы думаеце пра гэта?**

– Гэта звычайная сітуацыя. Людзі, як правіла, пачынаюць цікавіцца чымсьці, калі гэта закранае іх асабіста. Пра дзейнасць беларускіх эмігрантаў ведалі традцыйна тыя, хто сутыкаўся-сустракаўся з імі па нейкіх сумесных праектах або на імпрэзах-



Наталля Гардзіенка і Янка Запруднік. Сомерсэт, 2017

мерапрыемствах, хто ў нейкі час трапляў у асяродкі замежных беларусаў або, урэшце, сам апынуўся на эміграцыі. Усё гэта правакуе цікавасць да тэмы эміграцыі й яе дзеячоў. Пра Янку Запрудніка, безумоўна, ведалі ў нацыянальных колах у Беларусі. Папулярызацыя даробку беларускай эміграцыі ідзе ад пачатку 1990-х. Аднак нельга сказаць, што гэтая тэма ў беларускім інтэлектуальным дыскурсе калісьці была мэйнстрымам. А ад пачатку XXI стагоддзя яна фактычна сышла на маргінэс і падтрымлівается да сёння адзіночкамі-энтузіястамі. Ну, а цяпер, пасля 2020-га, пішацца ўжо новая гісторыя эміграцыі.

### Пра цікавасць новых эмігрантаў да папярэднікаў

**– А тая новая хваля эмігрантаў у ЗША, якая хлынула пасля падзей 2020-га, неяк выяўляе цікавасць да сваіх папярэднікаў? Наладжвае стасункі з закладзенымі беларускімі арганізацыямі? Кантактуе з навукоўцамі, дзеячамі культуры й мастацтва? Імкнецца скарыстаць досвед і працягваць справы старое эміграцыі? Сустракаюцца сярод іх людзі кшталту героя вашай кнігі?**

– 2020-ы значна актывізаваў беларускую дыяспару ў ЗША, і не толькі праз з'яўленьне новых беларусаў, але й праз усведамленне тымі, хто прыехаў раней, сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці. З'явіліся новыя суполкі ў розных гарадах, нават там, дзе раней ніякіх беларускіх арганізацый не існавала. Безумоўна, гэтыя новыя структуры кантактуюць са старымі, частка новых эмігрантаў далучаецца да старых арганізацый і працягвае іх дзейнасць. І там, дзе ёсць яшчэ прадстаўнікі старой эміграцыі, пісьменнікі, творцы, інтэлектуалы, дзе з імі можна спаткацца, "новыя" эмігранты, безумоўна, робяць гэта, цікавяцца тым, што было да іх. Пасля першай эйфарыі "першаадкрывальніцтва", калі свежыя эмігранты ўяўлялі сябе першымі гэткімі, прыходзіць разуменне, што было беларускае жыццё й дагэтуль, што шмат рабілася, што ёсць карысны досвед. Мы ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва сваімі выданнямі – кнігамі, штогадовымі выпускамі альманаху "Запісы БІНіМ", лекцыямі – намагаемся пашыраць гэтую інфармацыю для новых беларускіх суполак. І кніга, прысвечаная Янку Запрудніку, якраз ёсць часткаю гэтай дзейнасці.

Ці ёсць/будуць у асяроддзі "новых беларусаў" дзеячы кшталту Янкі Запрудніка, сёння казаць немагчыма. Я бачу багата актыўных і зацікаўленых людзей, якія займаюцца беларускай справай цяпер у розных формах, рэалізуюць шматлікія праекты пашырэння беларушчыны ў ЗША і на палітычным, урадавым узроўні, і ў працы з дзеткамі, і ў выданні кніг, і г. д. Неабходны час, каб пабачыць, хто застанецца ў беларушчыне на даўжэй.

### Пра архіў і чытачоў у Беларусі

**– Па Янку Запрудніку застаўся велізарны архіў. Ці цікавіцца хто ім, апрача вас?**

– Свае архіўныя зборы спадар Янка яшчэ пры жыцці размяркоўваў па розных сховішчах: частка захоўваецца ў Ратгерскім універсітэце, частка ў Беларускай фундацыі Крачэўскага ў Нью-Ёрку (і яна была асабліва актыўна скарыстаная для гэтага выдання), частка – у Беларусі. Не ўсе дакументы ўжо апрацаваныя, але цікавасць да іх ёсць. Летась на вялікай канферэнцыі Асацыяцыі славянскіх, усходнееўрапейскіх і еўраазіяцкіх студыяў была адмысловая панэль, дзе абмяркоўвалася важнасць архіўнай спадчыны Янкі Запрудніка й ягонага сябра па жыцці й беларускім руху Вітаўта Кіпеля для гісторыі беларускай прысутнасці ў ЗША. Багаты досвед спадара Янкі ў працы з тэмай беларускага дысідэнцтва таксама прыцягвае ўвагу да ягоных архіваў.

**– У Беларусі засталіся шматлікія сябры й прыхільнікі Янкі Запрудніка. Ці існуе ў іх магчымасць займець вашу новую кнігу пра яго?**

– Сярод аўтараў кнігі, тых, хто пісаў успаміны пра Янку Запрудніка, ёсць і тыя, хто жыве ў Беларусі. Кнігі Янкі Запрудніка багата выдаваліся цягам апошніх дзесяцігоддзяў у Менску, таму можна ўявіць, што частка ягонай чытацкай аўдыторыі па-ранейшаму застаецца там. На жаль, цяпер складаная сітуацыя з выданнем гэткіх кніг у самой Беларусі й распаўсюдам там выдадзенага ў замежжы.

Але шляхі шукаюцца. Плюс: электронны варыянт выдання з часам будзе даступны для ўсіх ахвотных, незалежна ад геаграфіі.

svaboda.org

# У ЕГУ ПРЫЗНАЧЫЛІ НОВАГА РЭКТАРА

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт паведаміў аб прызначэнні новага рэктара.

Ім стаў доктар Вілюс Шадаўскас, ён будзе займаць пасаду рэктара наступныя пяць гадоў. Афіцыйна прыступіць да выканання абавязкаў рэктара 6 студзеня 2025 года.

"Доктар Шадаўскас, выбраны праз канкурэнтны працэс з удзелам трынаццаці кандыдатаў з пяці краін, прыўносіць у ЕГУ вялікі досвед і моцнае лідарства", – адзначае ЕГУ.

Кіраўнічыя органы ўніверсітэта выбралі доктара Шадаўскаса за яго выключныя кваліфікацыі, у тым ліку за ўзорную працу ў якасці выканаўцы абавязкаў рэктара, яго далёкае бачанне будучыні ЕГУ і непахісную адданасць установе і сферы адукацыі, дадаў універсітэт на сваёй старонцы.

ЕГУ заснаваны ў Менску ў 1992 годзе, з 2004 года працуе ў Вільні, бо ў Беларусі ва ўстановы забралі ліцэнзію.

Папярэдні рэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Кшыштаф Рыбіньскі паведаміў пра сваё рашэнне пакінуць пасаду ў лютым 2024 года. Кшыштаф Рыбіньскі ў мінулым – віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага банку Польшчы, а таксама рэктар ВНУ ў Польшчы і Казахстане. Да выканання абавязкаў рэктара ЕГУ ён прыступіў у красавіку 2023 года.

- У ЕГУ вучыцца каля 1500 студэнтаў, працуе больш за 100 выкладчыкаў.
- Большасць студэнтаў (каля 80 працэнтаў) – беларусы.

ЕНU

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт

- Сярод выкладчыкаў таксама шмат беларусаў.
- Апошнім часам ва ўніверсітэт паступіла шмат уцекачоў з Украіны.

svaboda.org

**гутарка**

# Беларускі інстытут публічнай гісторыі: наладжваем дыялог паміж гісторыкамі розных краін

Сёлета ўлады Беларусі ўключылі тэлеграм-канал грамадскай арганізацыі Беларускі інстытут публічнай гісторыі ў спіс "экстрэмісцкіх матэрыялаў". Акадэмічны дырэктар Інстытута Аляксей Ластоўскі расказаў, як яны адрэагавалі на гэта, чым займаецца арганізацыя і якіх рэсурсаў не хапае для працы.




Аляксей Ластоўскі

## "Адразу адпісалася некалькі соцень чалавек, але ж і столькі ж падпісалася"

Беларускі інстытут публічнай гісторыі быў зарэгістраваны ў Варшаве як грамадская арганізацыя 4 ліпеня 2024 года. Галоўная мэта Інстытута – стварэнне погляду на мінулае без аўтарытарных і ідэалагічных установак, захаванне памяці пра трагічныя перыяды гісторыі Беларусі, фармуляванне бачання на складаныя і неадназначныя тэмы гісторыі Беларусі.

28 лістапада 2024 года суд Партызанскага раёна ўключыў тэлеграм-канал арганізацыі ў спіс "экстрэмісцкіх матэрыялаў".

"Адрэагавалі на гэта спакойна, таму што было чакана, – кажа Аляксей Ластоўскі. – Калі мы засноўвалі Інстытут, то адразу была абрана стратэгія, што нам вельмі важна і прынцыпова адстойваць гістарычную аб'ектыўнасць. Відавочна, што зараз для беларускай дзяржавы гісторыя з'яўляецца адным з важных прыярытэтаў для прапагандысцкай апрацоўкі насельніцтва. І любая ініцыятыва, якая б узялася супрацьдзейнічаць такім маніпуляцыям, адразу выкліча негатыўную рэакцыю з боку беларускай дзяржавы. Гэта намі прадугледжвалася, таму мы спакойна да гэтага паставіліся, прынялі пэўныя меры бяспекі, каб гэта не ўдарыла персанальна па людзях".

У тым ліку каманда Інстытута папрасіла падпісантаў з Беларусі адпісацца ад тэлеграм-канала.

"Але я думаю, што ўсе, хто чытаў яго, разумелі, што рабіць гэта ў Беларусі небяспечна. Адразу ад нас адпісалася пару соцень чалавек, але паколькі ў навінах пра гэта напісалі, то яшчэ столькі ж, нават крыху больш, падпісалася на наш тэлеграм. Таму па сутнасці гэта мала на што паўплывала", – кажа ён.

Аляксей лічыць, што ў беларусаў унутры краіны каналы доступу да інфармацыі Інстытута ёсць, бо яго складана абмежаваць у эпоху інтэрнэту.

"Можна надаваць "экстрэмісцкія статусы", але заблакаваць вялікія сегменты інтэрнэту немагчыма, – упэўнены ён. – Таму цяпер вялікі росквіт ютуб-каналаў па гісторыі. Я думаю, што ў досыць цікавым кірунку ідзе развіццё гістарычнага кантэнту ў Вікіпедыі, дзе можна працаваць па стандартах гістарычнай навукі. Канечне, істотна змянілася ў гэтым сэнсе праца незалежных СМІ, якія шмат сталі працаваць з гістарычным матэрыялам. Сябры нашага Інстытута шмат даюць інтэрв'ю медыя, да іх звяртаюцца. Але ж і сам гістарычны кантэнт у медыя стаў дастаткова сур'ёзным, гучаць важкія і грунтоўныя контраргументы беларускай прапагандзе. Пры жаданні заўсёды можна знайсці іншы погляд на гісторыю Беларусі. Дзяржаўнай прапагандзе куды складаней, гэта не тыя часы, калі не было інтэрнэту".

## "Займелі падтрымку на даследаванне па вывучэнні беларускіх падручнікаў па гісторыі"

Аляксей Ластоўскі расказвае, што існуе шмат праектаў, якія плануюць рэалізаваць у Інстытуце, але паўстае пытанне, дзе знайсці фінансавую падтрымку на рэалізацыю.

"Цяпер працуем над падрыхтоўкай заявак і фінансавым забеспячэннем на будучыню, каб мы, прынамсі, маглі разгортваць працу. Развіваецца ў нас "гістарычная дыпламатыя": удзел розных экспертаў у мерапрыемствах, якія прысвечаны гістарычнаму дыялогу паміж краінамі. Мы падрыхтавалі некалькі панэляў на буйных навуковых і экспертных мерапрыемствах у Варшаве, таксама рыхтавалі гістарычную дыскусію на беларуска-ўкраінскім форуме імя Астрожскіх у Кіеве. І яшчэ адбылася сустрэча беларускіх, украінскіх і польскіх гісторыкаў у Аўгустове, дзе абмяркоўвалі магчымасці супрацы. Стараемся актыўна менавіта ўдзельнічаць у наладжванні дыялогу паміж гісторыкамі розных краін.

Мы займелі падтрымку на даследчы праект па вывучэнні беларускіх падручнікаў па гісторыі. Бліжэйшым часам правядзем публічную прэзентацыю вынікаў гэтага даследавання", – расказвае ён.

Ці складана было зарэгістраваць Інстытут у Польшчы?

"Мы не мелі ў гэтым досведу, давялося павазіцца, – кажа Аляксей. – З першай спробы атрымаць дакументы не змаглі, было некалькі фармальных заўваг, дапрацоўвалі. Сам працэс з моманту падачы дакументаў заняў 3-4 месяцы. Дапамагалі з афармленнем некалькі ініцыятыў, бо трэба было ўсё зрабіць па польскім заканадаўстве. Калі ёсць такая дапамога, то праз рэгістрацыю рэальна прайсці".

## "Ёсць пэўны дэфіцыт гісторыкаў, напрыклад, тых, хто займаецца тэмай Другой сусветнай вайны"

У Інстытуце ёсць актыў, які працуе рэгулярна, – гэта сам Аляксей і Ігар Станкевіч (старшыня праўлення, журналіст, даследчык сталінскіх рэпрэсій), а таксама яшчэ два чалавекі, якія займаюцца падрыхтоўкай праектаў.

"Ёсць Рада, якая прымае стратэгічныя рашэнні, туды ўваходзіць 20 чалавек, – расказвае Аляксей. – Магло быць і куды больш, але прынялі абмежаванне па колькасці чальцоў, бо час ад часу Раду трэба збіраць, і было б складаней вырашаць пытанні з кворумам. Ёсць шмат гісторыкаў у эміграцыі, якія хочуць далучыцца да нашай працы. Пакуль мы абмеркавалі, як гэта зрабіць тэхнічна, сапраўды ёсць магчымасць афіцыйна стаць сябрам Інстытута, але пакуль разлічваем на тое, што калі будуць фінансава падтрыманыя праекты, то тады паступова зможам уцягваць іншых людзей у нашы актыўнасці. Пакуль што гэта праца пераважна ідзе на будучыню, на развіццё Інстытута, каб зрабіць з яго ўстойлівую структуру".

Акрамя фінансавых рэсурсаў, арганізацыі не хапае спецыялістаў.

"Ёсць у нас вялікая праблема з гісторыкамі, якія займаліся б тэмай Другой сусветнай вайны. Але магу сказаць, што і ў самой Беларусі ёсць дэфіцыт на навуковыя даследаванні, таму што пры ўсіх тых намаганнях, якія былі ўкладзены ў раскрутку памяці пра вайну, падкрэсліванне яе значнасці, прафесійнага вывучэння гістарычных тэмаў вельмі мала.

Няма даследчых манаграфій нават па самых прынцыповых пытаннях. Пераважна перадрукоўваюцца ранейшыя, яўна састарэлыя працы, да якіх ёсць шмат заўваг", – падсумоўвае Аляксей.

**Агата Мурашка, Budzma.org**

навіны

# Аляксей Трубкін: ПЫТАННЕ АРЭНДЫ ПРАВАСЛАЎНЫХ МАГІЛ ТРЭБА ВЫРАШАЦЬ

Беларускае гістарычнае таварыства і неабыякавыя жыхары Беластока спрабуюць вырашыць праблему адсутнасці аплаты за арэнду зямлі для магіл заслужаных беларусаў. Пахаванні знаходзяцца на праваслаўных могілках у Беластоку.



Пра магчымасці вырашэння праблемы і асобаў, пахаваных на могілках апавядае краязнавец Аляксей Трубкін.

**– Аляксей, пачнём з таго, што цяпер пачынаецца, калі можна так назваць, змаганне за праваслаўныя могілкі. А раскажыце, што гэта за сітуацыя і як у Беластоку ўзнікла такая ініцыятыва?**

– Можа быць, не зусім змаганне. Гэта хутчэй справа, якую трэба было вырашыць даўно. Сітуацыя паўтараецца кожны раз, калі з'яўляюцца паведамленні на могілках пра тое, што трэба заплаціць за арэнду. Калі гадоў 5–6 таму ў мяне, на жаль, не было часу, каб гэтым заняцца, бо былі іншыя грамадскія, больш важныя справы (хаця гэтая таксама вельмі важная, як я лічу), то цяпер прыйшоў час. Падчас апошніх Дзядоў я распавёў пра гэту праблему, і мне фактычна прапанавалі, што варта гэтым заняцца. Мы правялі першую сустрэчу, пасля – другую, і цяпер больш-менш вызначылі далейшую стратэгію вырашэння пытання. Мы будзем намагацца вырашыць гэтую праблему, бо яна сапраўды важная.

**– Давайце нагадаем, што гэта за могілкі ў Беластоку?**

– Гэта праваслаўныя могілкі Усіх Святых у Беластоку, найстарэйшыя праваслаўныя могілкі ў гэтым горадзе. Там пахаваны многія беларускія дзеячы. Калі ёсць родныя сем'і, якія клапоцяцца пра магілы і плацяць за арэнду, то праблемы няма. Але праблема ўзнікае з магіламі заслужаных беларусаў, у якіх не засталося родных. Пытанне арэнды гэтых магіл трэба вырашаць.

**– Гаворка ідзе пра ўсе магілы ці пра нейкія канкрэтныя?**

– Гаворка ідзе пра магілы Міколы Чарнецкага, Лявона Богуша, Сяргея Богуша і Кастуся Кіслага. Менавіта пра іх размова, бо так атрымалася, што ў іх не засталося родных.

**– Чым адметныя гэтыя людзі?**

– Гэта заходнебеларускія дзеячы, якія зрабілі значны ўнёсак у беларускую справу. Напрыклад, Кастусь Кіслы быў дырыжорам і адным з заснавальнікаў хору пры Таварыстве беларускай школы ў Беластоку, а таксама хору пры саборы Святога Мікалая. Ён быў актыўным удзельнікам беларускай культурнай дзейнасці як у Беларусі, так і ў эміграцыі. У час нямецкай акупацыі быў чальцом Беларускага камітэта. Баючыся наступстваў пасля прыходу савецкай улады, ён быў вымушаны з'ехаць. У эміграцыі працягваў культурную дзейнасць у Бельгіі і Злучаных Штатах. У 1980-я гады ён вярнуўся ў Польшчу, дзе і быў пахаваны. Сям'я Богуся таксама заслугоўвае ўвагі. Лявон Богуш і Сяргей Богуш былі актыўнымі дзеячамі беларускай справы. Напрыклад, пра Сяргея Богуша вядома зусім мала. Я выпадкова даведаўся пра яго з некралогу ў газеце, якая выдавалася падчас нямецкай акупацыі, дзе было напісана, што ён быў актыўным беларускім дзеячом і змагаром за беларускую справу.

Юлія Сівец, racyja.com

# БУРЭЛЬ І ЦІХАНОЎСКАЯ Ў СУПОЛЬНЫМ АРТЫКУЛЕ: "БЕЛАРУСЬ – ЕЎРАПЕЙСКАЯ КРАІНА"

У дзень завяршэння тэрміну знаходжання Жузэпа Бурэля на пасадзе Вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі, ён і Святлана Ціханоўская апублікавалі сумесны артыкул наконт таго, што Еўрасаюз робіць і што мае рабіць у дачыненні Беларусі.

Артыкул у Euobserver.com называецца "Чаму ЕС павінен падтрымліваць Беларусь" і пачынаецца словамі:

"Беларусь – еўрапейская краіна. Яе людзі падзяляюць тыя ж каштоўнасці, што і жыхары Варшавы, Парыжа і Берліна – свабода, годнасць і самавызначэнне".

Аўтары ў пачатку згадваюць 2020 год, калі на вуліцы Менску, Горадні і Віцебска выйшлі беларусы, мірна пратэстуючы за дэмакратычную будучыню, і яны тады зрабілі свой выбар, каб Беларусь была свабоднай і незалежнай краінай.

"Але сёння Беларусь знаходзіцца на раздарожжы. Падтрымліваючы Украіну, нельга забываць і пра Беларусь.

Ці застанецца яна ў пастцы дыктатара, які служыць імперскім амбіцыям Расеі? Ці гэта намеціць новы курс у бок Еўропы і дэмакратыі?",– задаюцца пытаннямі аўтары.

Яны перакананыя, што дэмакратычная Беларусь будзе мець ключавое значэнне для забеспячэння доўгатэрміновага міру і стабільнасці ва Усходняй Еўропе.

"З 2020 года Еўрапейскі саюз дэманструе непахісную падтрымку беларускаму народу. ЕС увёў некалькі пакетаў санкцый супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, накіраваных супраць асоб, адказных за рэпрэсіі супраць апазіцыі і грамадзянскай супольнасці і парушэнні правоў чалавека".

"ЕС таксама працягваў падтрымку беларускага народу. Ён выдзеліў больш за 140 мільёнаў еўра на дапамогу беларускай грамадзянскай супольнасці, незалежным СМІ і праваабаронцам. Ён адчыніў свае дзверы для беларусаў, якія ратуюцца ад пераследу, прапаноўваючы візы і міжнародную абарону тым, хто мае патрэбу – па стане на 2022 год у ЕС пражывае больш за 400 000 грамадзян Беларусі".

Акрамя таго, ЕС паабяцаў выдзеліць 3 мільярды еўра на мірны дэмакратычны пераход у будучыні.

Аўтары заклікаюць ЕС падтрымліваць і ўмацоўваць гэтую палітыку: ізаляваць рэжым і падтрымліваць беларускі народ: узмацніць санкцыі, падтрымліваць намаганні па прыцягненні да рэжыму адказнасці, падтрымліваць беларускую грамадзянскую супольнасць і дэмакратычныя сілы: праваабаронцы, незалежныя СМІ і дэмакратычныя сілы з'яўляюцца апорай супрацiву.

"Ім патрэбна мэтанакіраваная дапамога – фінансавая, тэхнічная, палітычная – каб падтрымліваць полымя свабоды. Мы павінны супрацьстаяць дэзынфармацыі, падтрымліваць сем'і рэпрэсаваных і ўмацоўваць ініцыятывы, якія выхоўваюць нацыянальную ідэнтычнасць", – пішуць аўтары.



Жузэп Бурэль і Святлана Ціханоўская

Яны заклікаюць супрацьстаяць спробам Расеі сцерці ідэнтычнасць, культуру і мову Беларусі.

Аўтары заклікаюць надалей даваць беларусам магчымасці жыць у краінах Еўрасаюза і дамагацца вызвалення палітычных зняволеных.

"Самае галоўнае, мы павінны паказаць беларускаму народу яснае бачанне еўрапейскай будучыні. Беларусы павінны ведаць, што аднойчы, калі яны будуць гатовыя, дзверы ў Еўрасаюз будуць адчыненыя для ўступлення іх краіны. Падтрымка ЕС дэмакратычнай Беларусі – гэта больш, чым проста маральнае абавязацельства – гэта стратэгічная неабходнасць".

svaboda.org

**навіны**

# ІНКЛЮЗІЎНАЯ АДУКАЦЫЯ ДЛЯ НОВАЙ БЕЛАРУСІ

12–13 снежня ў Берліне адбылося мерапрыемства, якое аб'яднала каля 30 прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці Беларусі. Актывісты з прафсаюзаў, выкладчыкі, навукоўцы, студэнты, праваабаронцы ды іншыя ўдзельнікі сабраліся, каб абмеркаваць магчымыя рэформы сістэмы адукацыі ў будучай дэмакратычнай Беларусі. Арганізатарамі канферэнцыі "Прававыя падставы інклюзіўнай і даступнай для ўсіх адукацыі ў Беларусі" выступіў Глабальны Універсітэт Працы (GLU) і Асацыяцыя Salidarnast e.V.



У мерапрыемстве прынялі ўдзел прадстаўнікі Незалежнага прафсаюза адукацыі і навукі "Асветнік", "Сумленныя настаўнікі", Беларускага Хельсінскага камітэта і Беларуская асацыяцыя адукацыі і навукі і іншых ініцыятыў.

## Праблемы адукацыйнай сістэмы Беларусі

Дыскусія пачалася з аналізу ключавых праблем, якія тармозяць развіццё адукацыі ў краіне. Удзельнікі адзначылі поўную дзяржаўную манапалізацыю адукацыйнага працэсу і стрыманне прыватных ініцыятыў, мілітарызацыю, бюракратызацыю, палітызацыю і ідэалагізацыю вучэбнай сістэмы. Сітуацыю пагаршаюць недахоп фінансавання, адток студэнтаў і выкладчыкаў за мяжу, а таксама ізаляцыя ад міжнародных адукацыйных праграм. Акрамя таго, неразвітасць дыстанцыйнага навучання і адсутнасць канкурэнтнага асяроддзя спрыяюць агульнаму заняпаду.

На фоне інтэграцыі з адукацыйнай сістэмай Расіі расце колькасць сумесных праектаў, такіх як увядзенне цэнтралізаванага экзамену (аналаг АДЭ) і стварэнне адзіных падручнікаў, што ўзмацняе ізаляцыю Беларусі ад сусветнага і еўрапейскага адукацыйнага прастору. Удзельнікі таксама выказалі занепакоенасць недахопам праграм на беларускай мове і адсутнасцю раўнапраўя ў адукацыйных працэсах паміж педагогамі і навучэнцамі.

Рэзкае скарачэнне насельніцтва Беларусі – яшчэ адзін выклік. За апошнія 50 гадоў колькасць дзяцей школьнага ўзросту зменшылася больш як на 40 працэнтаў. Прагнозы ўказваюць на далейшае зніжэнне колькасці насельніцтва да 8 мільёнаў да 2050 года. У той жа час узмацняецца адток людзей з сельскіх раёнаў у гарады, што прыводзіць да зніжэння попыту на адукацыю ў сельскай мясцовасці. Гэтыя тэндэнцыі суправаджаюцца масавай эміграцыяй пасля 2020 года, што дадаткова ўзмацняе кадравы крызіс.

Стан сістэмы адукацыі пагаршаецца скарачэннем фінансавання, якое накіроўваецца на ваенны і сілавы сектары, а таксама жорсткім дзяржаўным кантролем над адукацыйнымі ўстановамі. Узмацненне жорсткасці рэпрэсій супраць іншадумцаў, масавыя звальненні выкладчыкаў па палітычных матывах і забарона на прафесію для "нядобранадзейных" кадраў падрываюць акадэмічнае асяроддзе. Гэтыя дзеянні прыводзяць да зніжэння якасці адукацыі і пагаршэння міжнароднага іміджу беларускіх універсітэтаў.

– Пры прыёме на працу існуе сістэма фільтрацыі ад палітычна "нядобранадзейных", – адзначае звольнены выкладчык БДУ. – Для пачатку, ты абавязаны ўступіць у "Белую Русь" ці ФПБ. Таксама выкарыстоўваецца ўведзеная сістэма характарыстык з ранейшага месца працы. Часам кандыдат навук не можа ўладкавацца нават у сярэднюю школу настаўнікам. У Беларусі, па сутнасці, уведзена забарона на прафесію. Цяпер з'явіўся кантроль за наведваннем выкладчыкамі "недружалюбных" краін або наяўнасці сваякоў за мяжой. Пасля паездкі педагога апытваюць ці праводзіцца анкетаванне. Тое, што ідзе пастаянная праверка сацыяльных сетак супрацоўнікаў – гэта ўжо нікога не здзіўляе.

Асаблівая ўвага надавалася нефармальнай адукацыі. Праблемы, звязаныя з яго развіццём, уключаюць недахоп фінансавання, адсутнасць прызнання вынікаў, раз'яднанасць ініцыятыў і цякучасць кадраў. Нягледзячы на гэта, нефармальная адукацыя застаецца важным інструментам для захавання незалежнага мыслення і альтэрнатыўных адукацыйных падыходаў.

## Ініцыятывы і шляхі рэфармавання

Падчас мерапрыемства былі прадстаўлены два праекты канцэпцый рэформы адукацыі. Яны сталі прадметам ажыўленага абмеркавання: удзельнікі аналізавалі іх моцныя і слабыя бакі, абмяркоўвалі, што можна дапоўніць.

Было таксама прапанавана вывучаць міжнародны вопыт дасягнення мэт устойлівага развіцця (ЦУР) у сферы адукацыі. Для супрацьдзеяння прапагандзе беларускіх уладаў удзельнікі выказалі ідэю стварэння "кааліцыі" для прасоўвання незалежных дадзеных аб стане адукацыі ў краіне.

Удзельнікі сышліся на думцы, што рэформа сістэмы адукацыі – гэта доўгатэрміновы працэс, да якога трэба рыхтавацца ўжо сёння. Сярод прапаноў прагучалі:

• Стварэнне цэнтра для каардынацыі адукацыйных ініцыятыў і збору інфармацыі.

• Распрацоўка і захаванне "філасофіі" адукацыі, а таксама стабілізацыя сістэмы.

• Павышэнне прававой пісьменнасці педагогаў і студэнтаў.

Другі дзень мерапрыемства быў прысвечаны працы ў групах, дзе ўдзельнікі абмяркоўвалі канкрэтныя праблемы і шляхі іх вырашэння.

Вынікі паказалі, што пытанні фінансавання, акадэмічных свабод і прававой падтрымкі застаюцца ключавымі для ўсіх узроўняў адукацыі.

Мерапрыемства ў Берліне стала важным крокам для аб'яднання педагогаў і актывістаў, зацікаўленых у рэфармаванні сістэмы адукацыі Беларусі. Удзельнікі сышліся на думцы, што ўтварэнне будучыні павінна грунтавацца на дэмакратычных каштоўнасцях, свабодзе асобы і сацыяльным партнёрстве. Самаарганізацыя педагогаў і рэалізацыя прапанаваных ініцыятыў могуць стаць асновай для пабудовы новай сістэмы, якая адпавядае выклікам сучаснасці і будучыні.

salidarnast.info

## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2024 года

**1 студзеня**
• 105 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Барыс Рагуля, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і Канадзе. Памёр у 2005-м.

**2 студзеня**
• 145 гадоў таму, у 1880-м, памёр Браніслаў Залескі, мастак, пісьменнік.

**3 студзеня**
• 120 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Уладзімір Хадыка, паэт. Загінуў у 1940-м.

**4 студзеня**
• 50 гадоў таму, у 1975-м, памёр Юрка Віцьбіч (сапр. Серафім Шчарбакоў, на эміграцыі – Юрка Стукаліч), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**5 студзеня**
• 215 гадоў таму, у 1810-м, памёр Казімір Рагоўскі, тэолаг-езуіт, філосаф.
• 150 гадоў таму, у 1875-м, памёр Адам Завадскі, друкар і выдавец.

**6 студзеня**
• 415 гадоў таму, у 1610-м, памёр Андрэй Волан, філосаф, пісьменнік.
• 80 гадоў таму, у 1945-м, памерла Магдалена Радзівіл, мецэнатка.

**7 студзеня**
• Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары.
• 75 гадоў таму, у 1950-м, у Сіднеі пачаў працаваць першы Беларускі Клуб.
• 30 гадоў таму, у 1995-м, у Нью-Ёрку памёр Мікола Панькоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**8 студзеня**
• 45 гадоў таму, у 1980-м, памёр Кастусь Кіслы, кампазітар, музыкант, дырыжор, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША.

**13 студзеня**
• 40 гадоў таму, у 1885-м, памёр Іван Хруцкі, мастак.

**15 студзеня**
• 140 гадоў таму, у 1885-м, памёр Антон Адынец, паэт.

**21 студзеня**
• 185 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Станіслаў Ляскоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**22 студзеня**
• 135 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Ільдэфонс Бобіч, выдавец. Памёр у 1944-м.

**26 студзеня**
• 35 гадоў таму, у 1990-м, Вярхоўны Савет БССР абвясціў беларускую мову адзінай дзяржаўнай у Беларусі.

**30 студзеня**
• 90 гадоў таму, у 1935-м, нарадзіўся Эрнст Ляўкоў, геолаг, краязнавец. Памёр у 1996-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 12 (271), снежань 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com